

Што прамінута, непрамінута,
Не сплыло, не адышло:
У маёй памяці адбіта,
У маім слове узышло.

ВАСІЛЬ ІВАШЫН

# Слова

ВЕРШЫ

Мінск
Мет
1995

ББК 84(4 Беи)
І24
УДК 88.2.6

**Івашын В.**
І24 Слова: Вершы/ Аўт. прадмова. У. Гніламёдаў. – Мн.: ВП «МЕТ», 1994. – 160 с.

ISBN 985-6021-17-0

У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя на працягу трох апошніх гадоў. Разнастайная па сваіх матывах, танальнасці грамадска-патрыятычная, філасофская, пейзажная і інтымная лірыка аўтара звернута сваім зместам да народных, агульначалавечых маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасцей жыцця.

**І 8820600000** **ББК 84(4 Беи)**

**ISBN 985-6021-17-0**

**Уладзімір Гіламёдаў**

## ПАЭЗІЯ – СЯСТРА СВАБОДЫ

Як яна нараджаецца – паэзія? З гэтым пытаннем, вядома, лепш за ўсё звярнуцца да саміх паэтаў. Кожны з іх, напэўна, дасць свой адказ. Вось адказ Васіля Івашына:

Я адчуваю, як ў душы паволі
Разгараецца свабоды аганёк.
І ляціць адтуль, з глыбінь, на волю
Маёй адвагі смелы матылёк.

Каб пісаць вершы, трэба адвага. Колькі ён драмаў, таіўся, гэты "матылёк адвагі", у душы Васіля Івашына – не цяжка падлічыць, ведаючы, што паэт пераступіў ужо васьмідзесяты парог свайго жыцця і раптам нечакана – як той цёплы летні дождж – праліўся ў свет цэлым зборнікам свежых вершаў. Нечакана, бо па ўзросту аўтар, як бачым, чалавек сталы, і пачынаць нешта новае быццам і не выпадае.

Нарадзіўся ён на Міншчыне 26 красавіка 1913 г. у вёсцы Ляхавічы (цяпер гэта Дзяржынскі раён) у сям'і селяніна. Прайшоў вялікую жыццёвую школу, уключаючы і тую, вясковую, з якой пачалася яго дарога ў вялікі свет. Вучыцца давялося шмат. У 1933 годзе Васіль Уладзіміравіч скончыў Мінскі транспартна-эканамічны тэхнікум, аднак тэхнікам-эканамістам быць не збіраўся. Любоў да мастацкай літаратуры прывяла яго ў 1934 годзе на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Адтуль выйшаў настаўнікам. Гэта былі суровыя 30-я гады – час панавання таталітарызму і асабліва ўзмоцненых рэпрэсій, якія не абмінулі і сям'ю Івашыных. У 1937 годзе быў рэпрэсіраваны бацька. Так і не вярнуўся, і сын яго больш ніколі не ўбачыў. Хіба што ў сне, пра што і расказвае верш...

Скончыўшы (у 1938 г.) навучанне ў педінстытуце, В. Івашын (яго асабіста рэпрэсіі, на шчасце, не зачапілі) выкладаў мову і літаратуру ў Віцебскім педвучылішчы. Тут маладога настаўніка і заспела вайна, з якой ён вярнуўся пасля перамогі,

у 1945-м. Далей была выкладчыцкая работа, тры гады вучобы ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук, працяглая навуковая праца ў гэтай і іншых установах, вынікам чаго з'явілася шмат літаратуразнаўчых даследаванняў, кніг, артыкулаў, школьных падручнікаў. А пасля гэтага нечакана вершы... Мы, яго калегі і вучні, ведалі Васіля Уладзіміравіча як закаранелага, калі так можна сказаць, тэарэтыка літаратуры са сваім, выразна выяўленым падыходам да яе з'яў, і раптам:

Гэта неба, гэта сонца,
Гэты светлы далягляд,
Гэты спеў жыцця бясконцы,
Гэтых сосен стройны рад...

Хто ведаў, што ў ім, у душы, жыве Фет?! Своеасаблівая літаратурная сенсацыя, не менш. Што ж, у літаратуры так здараецца – гэта паэзія сцвярджае свае правы і законы, дзівіць нечаканасцю, свежым поглядам на стары наш свет, пераканальным доказам таго, што ён стары і адначасова заўсёды новы.

Паэтычнаму дэбюту В. Івашына, вядома, паспрыялі падзеі, што адбываліся на

ўзмежжы 80–90-х гадоў і пазней. Салодкі вецер свабоды, нацыянальная незалежнасць, дзяржаўнасць, адсутнасць ідэалагічнай і палітычнай рэгламентацыі – усё гэта будзіла пачуцці і ўспаміны, варушыла мінулае, выклікала абвостранае ўспрыманне навакольнага, прымушала думаць, хвалявацца...

Паэзіі, кажуць, пакорлівыя ўсе ўзросты, але гэта не значыць, што сама яна не мае ўзросту. Мае. Доказ таму – "Слова" В. Івашына. Вершы яго празрыстыя і чыстыя, напоўненыя спакойнай, спелай мудрасцю, незалежна нават ад таго, пра што ён піша. Гэта аднак не толькі не значыць, што паэт страціў уласцівасць здзіўляцца і захапляцца, а наадварот – тут у наяўнасці ўсе прыкметы інтэнсіўнага ўнутранага жыцця: "Не магу я надзівіцца, што там творыцца ўва мне". Матывы яго паэзіі вельмі разнастайныя: грамадзянская, патрыятычная лірыка мяжуе з інтымнай, пейзажнай, філасофскай... Што іх аб'ядноўвае? Тое, думаецца, што паэзія Івашына дашукваецца ісціны праз прыгажосць, маральную дасканаласць. У цэлым

гэта паэт філасофскага ўхілу, які моцна выяўлены на многіх старонках "Слова".

Прырода ў сонечным убранні,
У квецені садоў і ніў...
Як мне прадоўжыць час спаткання
З прыволлем гэтых кветак, траў?
Як мне пазбегнуць расставання
З красой, што май падараваў?

Прырода для Івашына – гэта і жывая рэчаіснасць у яе матэрыяльным увасабленні, і сімвал духу. Кажуць, што маральныя крытэрыі да прыроды непрыкладаемыя. Паэт, тым не менш, спалучае ў адно – прыродныя свае адчуванні і маральныя. А як жа інакш? Сёння, у век экалагічнай пагрозы, іх, бадай што, і падзяляць нельга, і В. Івашын пра гэта добра памятае, аднак ён не абмяжоўваецца голымі заклікамі берагчы прыроду. Яго абарона прыроды – паэтычная. Яна апасродкавана эстэтычным перажываннем, напоўненым жыццём чалавечага сэрца.

Часцей здараецца, што маладыя пачынаюць з паэзіі, а з цягам часу пераходзяць на прозу, публіцыстыку, становяцца крытыкамі-літаратуразнаўцамі. А вось, калі

ласка, адваротны выпадак. Абуджаецца, відаць, да жыцця цэлае пакаленне людзей, якія часам, можа, саромеліся (ці часу не ставала) паглядзець, палюбавацца на зорнае неба або на якую-небудзь зямную сціплую кветку, лічачы гэта не вартым "сур'ёзнага" чалавека заняткам.

Такое трэба вітаць, і я зычу Васілю Уладзіміравічу добра пачувацць сябе на гэтай новай для яго паэтычнай дарозе.

Прыдзірлівы чытач знойдзе, пэўна, у некаторых вершах элементы рыторыкі, залішняй сентыментальнасці – не без таго. Але, як кажуць дысертанты, гэта прыватныя недахопы, якія губляюцца ў паэтычным святле па-сапраўднаму ўдалых, прачулых, спавядальных радкоў! Паэт сцвярджае жыццё з ўсімі яго матэрыяльна-практычнымі і духоўнымі каштоўнасцямі:

Што пражыта – не забыта,
Засталося дарагім...
І красуе маё жыта
На палетку веснавым.
Хай красуе!

* * *

Я адчуваю, як ў душы павол
Разгараецца свабоды аганёк.
І ляціць адтуль, з глыбінь, на волю
Маёй адвагі смелы матылёк.

Ён ляціць, ляціць і ўсё крыляе
І мяне з сабою уздымае,
Маю думку-мару акрыляе,
Ўсё гарыць, гарыць і не згарае.

І натхненне ўладарыць пачынае,
Ўсяго мяне імгненна ахінае,
Непаўторны свет мой нараджае
І гэты свет з жыццём яднае.

* * *

Што на сэрца мне кладзецца,
Усё нанова прагне жыць:
Ці то песняй адзавецца,
Ці то громам прагрыміць,
Ці, як неба, азарыцца,
Ці, як знічка, прамільгне.
Не магу я надзівіцца,
Што там творыцца ўва мне.

* * *

Ўсё бяру, усё прымаю,
Ўсё сваім я прызнаю:
Песні роднага мне краю,
Маладосць, любоў маю.

Дарагую мне прывабнасць
Вечна юнай пекнаты,
Бескарысную адданасць
Чалавечай дабраты.

Кожны міг жыццетварэння,
Што ўзнімае да вышынь;
Асалоду азарэння,
Што засвечана ў душы.

Радасць першага прызнання
І пачуццяў чысціню.
Вечар крыўдны развітання,
Перажыты ўпершыню.

Ўсе парогі і трывогі,
Што сусрэнуцца ў жыцці,
Ўсе чалавечыя дарогі,
Што мне прыдзецца прайсці.



Табой, мая радзіма, ўзгадаваны,
Хрышчоны на тваім святым агні,
З табой я назаўсёды паяднаны
У час нягод і ў радасныя дні.

О, родная зямля! Твае прасцягі,
Адвечную красу тваіх палёў і ніў,
Блакіт тваіх крыніц, лясоў абсягі
Я змалку з сваім сэрцам парадніў.

І ўсё тваё мне стала блізкім, родным,
Ўсё адгукнулася ў маёй душы:
І песня матчына з тугой народнай,
І рэчка Уса, што плыла ў цішы.

Цябе я ў тваіх скарбах адкрываю
І бачу светлай будучнасць тваю;
І аднаго я перш за ўсё жадаю –
Не страціць мне цябе, душу маю.

І кожны раз я з любасцю вітання
Страчаю раніцу ў тваім жыцці...
Ўсё новае праходзіць гартаванне,
Каб на крылах адраджэння прарасці.

І адрадзіцца ў ясным сонцаўбранні,
Ўсёй першароднасцю сваёй заззяць
І споўніць запаветнае прызванне –
Сваю зямлю свабодаю абняць.

Тваім святлом душа мая сагрэта,
І дзе б мае шляхі ні пралеглі,
Я йду насустрач маладому свету, –
Свабодны сын свабоднае зямлі.

## МОВА РОДНАЯ...

О, мова родная, ты ўсё змагла...
Твая ў народзе – прыгажосць і сіла,
Спрадвек ты яго долю сцерагла,
Ягоныя ўсе скарбы адрадзіла.

А тваё слова з першым пачуццём,
Што матчынае серца ўзрасціла,
Любіць радзіму, даражыць жыццём
Мяне яшчэ ў маленстве навучыла.

І ад калыскі ты мяне вяла,
Дарогамі жыцця са мной хадзіла.
Ты вернай спадарожніцай была,
І радасць, і журбу са мной дзяліла.

Ты мне дала ўсё тое, што магла,
Ты мудрасці крыніцы мне адкрыла.
Ты, мова, свет Купалы зберагла
І Коласаву праўду падарыла.

## СВАБОДА

Цемратворцы тваё сонца закрывалі,
Святло тваё хацелі пагасіць.
На цябе яны аковы надзявалі,
Змушалі цябе кайданы насіць.

Няскораная, ты іх разрывала
І мужным клічам-звонам вечавым
Знясіленых адвагай напаўняла,
Шляхі да волі асвятляла ім.

У цемрадзі паходняй ты гарэла,
Аддаючы агонь свой барацьбе.
Што ў сэрцы чалавечым набалела,
Ўсё болем аддавалася табе.

Спрадвеку ты жыла ў душы народа
Як спадзяванне праўды і дабра,
Маёй радзімы – мужная свабода,
Майго народа – ясная зара!

* * *

Ёсць думкі чалавечай вышыня,
Што бачыцца з усіх зямных шырот.
Ёсць мудрасці спрадвечнай глыбіня,
Што ў сэрцы сваім захаваў народ.

І гэту мудрасць-праўду ён пранёс –
Як скарб найдаражэйшы – праз вякі,
Вартуючы радзімы сваёй лёс,
Сваіх святыняў слаўных маякі.

І мудрасці агонь той не пагас,
Ён гарыць, як светач векавы.
І не пагасне, як не гасне час...
Ён – праўды чалавечай вартавы.

## МАЯ ІДЭЯ

Ты хочаш пахаваць маю ідэю,
Якой аддана я служу.
Маю душу, маю надзею,
Чым даражыў,чым даражу.

Яна ўзышла з глыбінь народных,
З вытокаў памяці жывой,
З крыніц спрадвечных, першародных
З крыштальна чыстаю вадой.

Яна – мой светач і сумленне,
Паходня верная мая,
Вялікай праўды азарэнне,
Якую спавядаю я.

Яна не змеркне, не пагасне
Ад нематы і забыцця.
Яна мне свеціць зоркай яснай
У вечнай плыннасці жыцця.

* * *

Поле, поле... Скрозь пагоркі,
І даліны, і лугі.
Родная мая старонка,
Край мой мілы, дарагі!

Колькі моцы, краю мілы,
Залягло ў тваёй зямлі!
Не змарнелі твае сілы,
Зноў ускрэслі, ажылі.

Зарунелі твае нівы,
Ўскаласіліся палі,
Прычакалі свайго жніва
На адроджанай зямлі.

Засвяцілася свабода –
Скарб вялікі векавы –
У душы майго народа –
Яго долі вартавы.

* * *

Годзе плакаць, пакіньце стагнаць!..
Мы паплакалі з гора даволі.
Трэба ніву сваю засяваць
На шырокім адроджаным полі.

Сеяць зерні вялікіх надзей,
Шчодрадзейных людскіх парыванняў
І наблізіць наш заўтрашні дзень
У сваім першародным убранні.

Несці ў свет свой абноўлены сцяг,
Адкрываць усё новыя далі,
Каб пракласці уласны свой шлях
І ўзнесці свабоды скрыжалі.

# СЛОВА

Ты ўсю людскую мудрасць умясціла,
Ўсю бездань думкі прагнай абняло,
Ўсяму, што ёсць на свеце і было
Дало ты назву, скарбы ўсе адкрыла,
Душу майго народа акрыліла
Нязгаснай волі поклічам сваім.
Яго ты з чалавецтвам парадніла...
А колькі дзіўных песень нарадзіла!
І стала ты жаданым, дарагім,
Адроджанае матчынае слова.
І веру я ў твой шчаслівы лёс,
Ў жыццё тваё, адкрытае нанова.
Народ, што праз гады цябе пранёс,
Збярог і ў сваім сэрцы захаваў,
Сябе з табой ад згубы ўратаваў,
Навекі абяссмерціць цябе, слова!

## ПАМЯЦЬ СЭРЦА

Памяць сэрца, колькі ты змясціла
Болю і пакутаў ад жыцця?
Марыла, малілася, любіла,
Веру узнімала з забыцця.

Колькі спадзяванняў азарыла,
Міласці, душэўнай цеплыні,
Колькі залацінак падарыла
Праўды, чалавечай дабрыні.

Колькі дум вячыстых ажывіла,
Прагных парыванняў вышыні.
Колькі душ людскіх ты параднiла
Магіяй сваёй святой любві.

Вечнае з народам ты злучыла,
Сцяг яго свабоды узняла,
Песню матчыну багаславіла,
Мову для нашчадкаў зберагла.

# РАДЗІМЕ

Я неба, неба твае слаўлю,
Ўсю зорную тваю красу.
Што на зямлі душой прываблю,
Усё на неба узнясу.
Вялікасць мар і дум узлёты,
Купалаў дзіўны агняцвет,
Скарыны мудрыя ясноты,
Што асвяцілі цэлы свет.
Ўсе твае, Радзіма, запаветы
Ад прашчураў спакон вякоў,
Што тваім сонцам абагрэты,
З усіх тваіх аддаленых шляхоў
Я праз усё жыццё нясу
Іх незабыўную красу,
Каб будучыні перадаць
І там навечна захаваць.

* * *

Што пражыта, перажыта,
Не сплыло, не адышло:
Ў маёй памяці адбіта,
Ў маім слове узышло.

Адрадзілася, паўстала
З немаТы і забыцця,
Засвяцілася, заззяла
Ўсімі фарбамі жыцця.

Што пражыта – не забыта,
Засталося дарагім...
І красуе маё жыта
На палетку веснавым.

## ПАМЯЦЬ БЕРАЖЫЦЕ...

Памяць беражыце, беражыце,
Памяць ніў, лясоў, азёр і рэк,
Тых святынь сваіх, чым даражыце,
Што стварыў для шчасця чалавек.

Памяць маці і зямелькі роднай,
Шчодрай, незабыўнай, дарагой,
Памяць праўды, мудрасці народнай,
Што зраднілася навек з табой.

Памяць сэрца, любасці дзявочай,
Ўсіх юнацкіх, спраўджаных надзей,
Памяць думкі смелай і прарочай,
Абганяючай ходу падзей.

Памяць мары, вечнага імкнення,
Веры з чалавечай дабрынёй,
Памяць ўсіх мінулых пакаленняў
Захавайце ў памяці сваёй.



Што ў памяці навечна застанецца,
Чаго не праглыне і плынь вякоў,
Што ў маім сэрцы моцна адаб'ецца,
Не церпячы прымусу і акоў?

Краса маёй зямлі, майго народа
З яго славай даўняй, векавой.
Яна, як вечная прырода,
Жыве ўва мне, жыве са мной.

Яна заўсёды прагне адрадзіцца,
Паўсюдна запаліць свае агні,
Свабодай асвяціць і нарадзіцца
Ў пяшчотах чалавечай дабрыні.

Краса не пакараецца адвеку,
Так, як і сам яе тварэц-народ.
Яна ўзвышае свет і чалавека,
Яна і абяссмерціць яго род.



Усё, што маю, чым багаты,
Ад роднага народа я прыняў.
І гэту спадчыну без страты
З любоўю ў сэрцы захаваў.

Яна цяпер навек са мною –
Як памятка Радзімы дарагой –
З народнай праўдай векавою
І думкай-марай веснавой.

Зрадніўся з ёю я душою,
Адкрыў ў вяках яе красу...
Дары ўсе свету разам з ёю,
Як дар яе, з сабой нясу.

З ёю і да будучыні йсці
Шляхамі роднага мне краю...
На ўсіх дарогах у жыцці
Цябе, Радзіма, сустракаю.

* * *

Крыніцы, родныя крыніцы,
Адзнакі славы векавой,
З іх красой – вадой-жывіцай –
Гаючай, чыстай, ключавой.

Шукалі мы цябе, вадзіца,
Каб жыць шчасліва век з табой...
І ўсе пілі з адной крыніцы,
Іскрыстай, светлай, веснавой.

І ўдосталь не маглі напіцца
І сваю смагу наталіць...
Вада, як тая чараўніца,
Змагла нам сілы адрадзіць.

* * *

Шляхі, шляхі, дарогі лёсу,
Людскога шчасця бальшакі...
Ідуць яны ў вясну і ў восень,
І ў холад зімні праз вякі.

І ўсе ад роднага парога,
Ад першых сцежак і надзей.
Твая бацькоўская дарога
Цябе ў вялікі свет вядзе.

Усё тваё – ў тваім народзе,
Сваё ты шчасце там знайдзі...
Будзь верны выбранай дарозе,
Чужою сцежкай не ідзі.

Ідзі сваёй без стомы, змогі,
Што пралягла даўно ў вяках,
Туды, дзе сходзяцца дарогі
Ў адзіны чалавечы шлях.



Чытаю год за годам я жыццё сваё,
Гартаю ўжо пажоўклыя старонкі.
Ўсё, што было і што ёсць яшчэ – маё, –
Ўсе ягоныя нізіны і пагоркі.

Маленства і юнацтва дзесьці ў глыбіні,
Як водгулле даносяцца іх крокі.
Памерклі іх цяпер апошнія агні,
Застылі недзе ў памяці далёкай.

А там зноў бачыцца і новы далягляд,
Вайны крывавай грозныя раскаты,
Асірацелай долі стомлены пагляд...
Літанні, боль і боль, ахвяры, страты...

Кругі маіх салдацкіх вогненных дарог,
Што ў далеч праляглі ад роднай хаты,
Агонь вялікіх векапомных перамог,
Які пранеслі праз вайну салдаты.

І новы ў памяці ўзнікае краявід,
І новыя мне бачацца там далі:
Гады пасляваенных звілістых арбіт,
Што да жорсткай праўды прывучалі.

Я ўсю яе спазнаў і праз жыццё пранёс,
Як і ўсе ад той вайны салдаты.
Зусім я не крыўдую на цябе, мой лёс,
Не патрабую аніякай платы.

Бяру з сабою я усё, чым даражыў,
І што ў жыцці сабою я пазначыў,
Што праўдай як жыву, так і заўсёды жыў,
Што веры я сваёй нідзе не страціў.



Я рос сярод шчырых і добрых людзей,
Што працай свой хлеб здабывалі,
І кожны свой ёю аздоблены дзень
Яны для дабра аддавалі.
Як родную маці, радзіму любілі,
Ёй шчасця заўсёды жадалі;
І радасць, і гора з народам дзялілі,
І мову спрадвек шанавалі.
Сялянскага звання свайго не гублялі
І продкаў штогод паміналі.
Па родных сцяжынках мяне вадзілі,
За стол святочны гасцінна садзілі,
Кляновым сокам мяне частавалі,
З маленства шчасце маё гадавалі
І ў свет шырокі дарогу адкрылі.



Ў якія б ні сягаў я далі,
Са мной радзімы берагі...
З маленства ў сэрца мне запалі
Рачулка, лес, палі, лугі.

І тыя песні, што спявала
Мая маці па вясне,
І тая казка, што люляла
Мяне, хлопчыка, у сне.

І ўсе знаёмыя мясціны,
Сцяжынкі, бальшакі,сады,
Бацькоўскі стол заўжды гасцінны
З духмяным хлебам маладым.

І гэта ўсё жыве са мною,
Як памяць роднае зямлі.
Адсюль сцяжынкаю малою
Мае пуціны праляглі.

Тут ўсе пачаткі і працягі
Засеяных народам ніў;
Ўсе спадзяванні, ўсе прысягі,
Што ён з радзімай парадніў.

## КАЛІ Б МОЖНА БЫЛО...

1

Калі б можна было зноў мне нарадзіцца
І сустрэцца зноў з маёй вясною,
Красой жыцця яшчэ раз надзівіцца,
Акрыліцца сілай маладою.
Калі б да маленства майго зноў вярнуцца,
Туды, дзе ткалася жыцця аснова,
Да грудзей радзімы сэрцам прыгарнуцца
І разам з ёй пражыць жыццё нанова.
Ды толькі ў марах ці у сне я там бываю
І ўсё жыццё маё перажываю.

2

Я іду ў сваё дзяцінства,
Ў край маіх нясненых сноў,
Тым жа шляхам, тым гасцінцам,
Той жа ранняю вясной.
Я іду здалёк дадому,
Ў казку светлую сваю.
Сабе, хлопчыку малому,
Ўсе дарункі аддаю.

Свет дзіцячы адкрываю,
Яго дзіўную красу.
Ўсю прыгожасць майго краю
Я з сабой ў жыццё нясу.
Ўсё дарэшты ажыўляю:
Палкасць мар, дзіцячых дзіў.
Ўсе сцяжынкі благаслаўляю,
Па якіх малым хадзіў.
Ўсё нясу з сабой без страты,
Што ў душы я адрадзіў:
І дуб стары ля нашай хаты,
І сад, што дзед калісь садзіў.
Тут ўсё, з чым я зрадніўся,
Што ад маці успрыняў,
Чаму шчыра я маліўся,
Сваім, родным называў.
Тут і першая навука,
Якой сябе я аддаю.
Бяру буквар у свае рукі,
І слова "мама" пазнаю.
Я часта ў кнігі заглядаю,
Хачу ўсё у іх пазнаць.
Купалу з Коласам чытаю,
І сам прабую рыфмаваць.

## 3

Я хацеў бы летнім раннем
Зноў пайсці ў сваё дзяцінства
І пры першым жа спатканні
Яму нізка пакланіцца.
Зноў прайсці па сцежках росных
Раным-рана на світанні,
Прывітаць старыя сосны
Ў час вячэрні, на змярканні.
Падысці да той бярозы,
Што па мне тут смуткавала.
"Асушы ты яе слёзы", –
Мне зязюлька кукавала.
Не забыць мне тую сцежку,
Што у лес мяне вадзіла,
Тую грушу на узмежку,
Што са мною гаварыла.
Таму дубу надзівіцца,
Што разросся каля хаты,
Яго сілай акрапіцца,
Падзяліць з ім дар багаты.
Выйсці ў поле, к сенажацям,
Іх красой амаладзіцца,
Вярнуць тое, што я страціў,
І навекі з ім зрадніцца.

Пабываць у песнях маці,
Што ў дзяцінстве мне спявала,
Тую радасць зноў спазнаці,
Што ў душу тады запала.
Пабратацца з першай казкай,
Што мне дзіўны свет адкрыла,
Разам з дзедаваю ласкай
І мяне туды вадзіла.
Час праславіць маю мару,
Што маленства адрадзіла,
Што са мною разам ў пары
Тымі сцежкамі хадзіла.

# СОН

*Светлай памяці майго бацькі*

Дзень такі трывожны...
Сам таго не знаю,
Спаць кладуся позна,
Цяжка засынаю.
Страшны сон я бачу:
Нібы кроў глытаю.
Што такое значыць? –
Сам сябе пытаю.
Скрозь бушуе мора
Без канца і краю...
Гора маё, гора...
Плачу я, рыдаю.
Раптам злая бура
Дуб стары зваліла
І на нашу хату
Дуб той паваліла.
Рушыла лавіна,
З громам шуганула
І ў адну хвіліну
Бацьку праглынула.
Маці просіць Бога,
Горка ўздыхае
І мяне малога

На руках трымае.
І адтуль, здалёку,
Бацькаў цень ўзнікае
І ў момант вока
Раптам зноў знікае.
Я стаю. Чакаю,
Рукі ўзнімаю,
Чую, бацька кліча,
Штосьці сказаць жадае.
Зноў яго аблічча
З цемнаты ўсплывае.
Пэўна, аб сустрэчы
Ён мяне пытае,
Сам таго не знае,
Што ў той пустэчы,
Куды ён знікае,
Ніхто анікога
Вольнага, жывога
Там не сустракае.
Я дрыжу ад страху,
Ўсё з сябе зрываю.
Ад такога жаху
Вочы адкрываю.
Сон гэта ці праўда,
Хто тут разгадае:
Тое, што сасніў я,
У жыцці бывае.

* * *

Жыццё не песціла мяне,
Не ведаў я ягонай ласкі.
З малых гадоў прыйшлося мне
Адчуць ману чароўнай казкі.

У мірны час і на вайне
Я зведаў смак яго марокі.
На ўсіх шляхах давала мне
Свае бязрадасныя ўрокі.

І трэба мне было спазнаць
Суровы курс тае навукі,
Каб разам з праўдаю пазнаць
Цану жыцця, яго зарукі.

І ўсё пранесці да канца,
Засведчыць сэрцам назаўсёды,
І з вышыні свайго жыцця
Прывецiць маладыя ўсходы.

* * *

Я славы не магу ні з кім дзяліць.
Я не нажыў яе.
                    Чужая мне не трэба.
Галоўнае –
            ва ўсім сумленным быць,
Любіць людзей,
                    дзяліць з другім
                            акраец хлеба.
Служыць нязменна
                        праўдзе той,
Святло якой заўсёды з намі.
Свабодай жыць
                    усёй душой,
Яе багатымі дарамі.
Радзімы несці верны сцяг
Да новых дзён, да новай мэты
Праз ўвесь зямлі маёй прасцяг,
Яе дыханнем абагрэты.



Думкі, думкі... Як ад іх адбіцца?
Як, душа, знайсці табе спакой?
Што было і што магло прысніцца,
Паплыло шырокаю ракой.

Даўняе ўспаміны ажывіла,
Тое, што праз глыб гадоў прайшло, —
Жоўтаю лістотай закружыла,
Зноў да сэрца жалем падышло.

Іншым многае цяпер паўстала,
Быццам не такім, якім было, —
Блізкае далёкім такім стала,
Новае аблічча набыло.

Тое, што ў мінулым перажыта,
Будзіць маю памяць кожны дзень,
Быццам бы яно з душой адкрытай
Спавядацца да мяне ідзе.

Быццам і другі я і мудрэйшы
У сучаснае яго вяду,
Быццам з маладых гадоў, ранейшы
Да сябе цяперашняга йду.



Маладосць мая, ты адзвінела,
Адбурліла, адшумела, адышла.
Дзе твой агонь, якім ты ўся гарэла,
Праз якія павароты ты прайшла?

Але ў думках ты заўжды са мною,
Ў памяці ўсё свеціцца зара твая,
У будучнасць я іду з табою,
Ўсё новае з табой вітаю я.

Я бачу цябе ў сне слязой абмытай,
То ў сонечным святле, то ў мутнай цьме.
Захопленая марай прагавітай,
Ты на спатканне крочыш да мяне.

Ты з радаснаю весткаю прыходзіш,
Ты з горам сваім да мяне ідзеш,
Пра трыццаць сёмы кожны раз гаворыш,
Ты боль яго і свой мне аддаеш.

Ўсе колеры жыцця я ўспрымаю,
Ва ўсім святле цябе я пазнаю;
Ўсё ад цябе дарэшты я прымаю,
Не ўсё тваё сваім я прызнаю.



На двары восень, на душы вясна.
Яна мяне ўсяго амаладзіла,
Шчаслівая хвіліна надышла
І сілы нечакана адрадзіла.

Але ведаю: кароткі гэты час,
Як водбліск сонечны з-за цёмнай хмары.
Пакуль жыцця агонь яшчэ не згас,
Крыляюць на прасторы мае мары.

Але восень надышла. Пара жаць...
Паспела ўжо за лета маё жыта,
І сам прабую я ў снапы вязаць
Усё, што мною было пражыта.

У кожнага ў жыцці свой час жніва,
І свой жа час падводзіць падрахункі...
Апошні ўраджай іду знімаць,
Прымаць апошнія яго дарункі.



Мне ўсё сніцца і сніцца дарога,
Ля дарогі бярозавы гай.
І вядзе яна ў свет ад парога
Ў нейкі дзіўны, нязведаны край.

І іду я па ёй на спатканне
З тым жыццём, што прыснілася мне,
Ў гэта хмурна-журботнае ранне
І такое дзівоснае ў сне.

Нібы казка, яно прада мною
Ва ўсёй першароднай красе...
Ўсё асветлена яснай зарою
І той шлях, што я бачыў у сне.

Наўкол поле, шырокія нівы
І бяскрайні працяг вышыні,
І зары залатыя разлівы
Ў нябеснай нямой глыбіні.

І здаецца іду я да сонца,
Прыспяшаючы час і хаду.
А шлях цягнецца ўдалеч бясконца...
Я іду... Ўсё іду... Ці дайду?

* * *

*Міхасю Судніку*

Ніяк не магу я спазніцца
У бацькавай хаце пабыць,
З крыніцы маленства напіцца
І сілы свае абнавіць.

Ніяк не магу я спазніцца
Наведаць маіх сяброў...
Хачу з імі ўсім падзяліцца,
Аддаць ім маю любоў.

Ніяк не магу я спазніцца
Узнесці ў душы маёй храм,
Каб там толькі праўдзе маліцца,
Усім маім добрым багам.

Ніяк не магу я спазніцца
Надзею маю спаткаць...
Наступнаму дню пакланіцца
І зноў жыццё прывітаць.

* * *

Усё, што маю я, належыць людзям,
Ад іх багацце ўсё маё.
Што ўжо было і што на свеце будзе,
Ва ўсім мне бачыцца сваё.

Ва ўсім, ва ўсім знаходжу сваю меру,
Людскую – значыць і маю,
І боль чужы, што сэрцам абагрэю,
Сабе самому аддаю.



Усюды, дзе думка лунае,
Хацеў бы там быць, пагасціць,
І ўсё, што яна акрыляе,
Навечна сваім абвясціць.

А свет без канца і без краю...
Бязмернасць ва ўсім і ўсяго...
Я шлях свой у ім выбіраю
Трывожнага шчасця свайго.

Ва ўсім, што на ім сустракаю,
Свой свет і свой лёс пазнаю...
У ім я сябе адкрываю,
Чалавечую меру маю.

Гэтай мерай усё вымяраю:
І гора, і радасць людзей,
Спакусы зманлівага раю,
Нязгаснасць і марнасць надзей.

І ва ўсім, што я ні ствараю,
Перад чым у жыцці ні стаю, —
Самога сябе адкрываю,
Чалавечую меру маю.

* * *

Я ў думках да сябе сягаю,
Туды, ў глыбіні свайго "я",
Дзе сваёй праўдзе прысягае
Душа – пакутніца мая.
Яна ўбірае ўсе трывогі,
І боль, і гаркату жыцця,
І радасць з дальняе дарогі,
І ўсплеск гарачы пачуцця,
І смелай думкі парыванне,
Што прагне зорнай вышыні,
І голас вернасці прызвання,
І чалавечай дабрыні.
Яна, не ведаючы зморы,
Хацела б цэлы свет змясціць,
І ўсе ягоныя прасторы
Сваёю праўдай ахрысціць.



Хацеў бы я, як памяць, зберагчы
Усе спатканні, ўсе сусрэчы,
Ад сэрца закаханага ключы,
Ўвесь воблік свету чалавечы.
Ўсе дарогі, маякі, масты,
Што роднасць душ людскіх злучалі
І зерні чалавечай дабраты
З веку ў век ў сабе хавалі.
Прыроды вечнай першацвет,
Яе красы жывыя сховы,
Яе дзівосныя абновы,
Што адарылі ўвесь сусвет.
Як бы мне ўсё гэта не забыць,
Зберагчы яго і не згубіць
Усіх былых часоў жывую ніць,
Што ў адзін нязмераны ланцуг
Ўсеабдымны чалавечы дух
На ўсіх вітках жыцця злучыла
І з маіх светам парадніла.



Як часта я парог пераступаю,
Выходжу [redacted] дому, вуліцы мінаю,
Іду ў поле, межы прамінаю,
Заслоны часу ў думках расхінаю;
Праходжу кожны новы паварот,
Імкнуся заглянуць за гарызонт,
І новыя пераступіць парогі
Смелай думкі, мары, сілы пачуцця
І новыя нязнаныя дарогі
На скрыжаваннях смерці і жыцця.
Так часта я парог пераступаю,
За пройдзеным ўсё новы адкрываю
І кожны зноў пераступіць жадаю.
Парогаў у жыцці бясконца многа,
Не хачу я заставацца ля парога.



Пакажы мне такія дарогі,
Па якіх шчэ ніхто не хадзіў...
Што за шлях без клапот і трывогі,
Неспазнаных, нязведаных дзіў?..

Хай адкрыюцца ўшыр далягляды
Усіх няходжаных ў свеце шляхоў,
Усіх дачасных, забытых паглядаў,
Што узніклі на ўзмежжах вякоў.

Хачу ўбачыць я там краявіды
Тых прасторных і ясных пуцін,
Што знікалі, як здані-прывіды
У цянётах мінулых часін.

Хачу ўславіць я мары людскія,
Што народ у жыцці спарадзіў,
Усе дарогі яго векавыя,
Па якіх шчэ ніхто не хадзіў.

* * *

Я шукаю, ўсё шукаю,
Каб такое мне знайсці,
Што нідзе не мае краю,
Не траплялася ў жыцці.

Каб адкрылася ў здабытым
Нездабытае яшчэ,
Каб знайшлося ў пражытым,
Што нанова прарасце.

Каб пазналася ў знаёмым
Незнаёмае зусім,
І каб стала мне вядома
Першароднае ва ўсім.

* * *

Багацця мне так мала трэба:
Хачу ўсім быць, хачу ўсё знаць,
Хачу адняць красу ў неба
І ўсю зямлянам перадаць.

Хачу ўзняць зямлі прасторы
І іх уквеціць на зары.
Хачу людзей пазбавіць гора,
Усіх іх шчасцем адарыць.

Хачу адкрыць такія скарбы,
Каб іх навекі захаваць...
Хачу знайсці такія фарбы,
Каб гэту мару ўшанаваць.

* * *

Не ўсё гатовы мы заўважыць
Ў штодзённай буднасці жыцця,
Ў малым вялікае ўзважыць
І захаваць ад забыцця.

Пазнаць сваё прадвызначэнне,
Ўсеўладнасць духу і святла,
На ўсім пакінуўшы свячэнне
Свайго душэўнага цяпла.

Знайсці ў сабе вялікасць мэты
І зерне ісціны расціць,
І кожны дзень, ёй абагрэты,
Сваім па праву абвясціць.

* * *

Не знаю і не магу дазнацца,
Што скажуць пра наш час нашчадкі.
Гісторыя не хоча паўтарацца
І крочыць часам без аглядкі.

Хаця гады мяне не сцераглі,
Век мой – не залаты, не срэбны,
Але й маё ёсць шчасце на зямлі,
І я жыццю яшчэ патрэбны.

І радасна да слёз усведамляць,
Што ты яшчэ ў страі салдатам,
Што можаш людзям ты сябе аддаць,
Што ёсць яшчэ і тваё свята.

* * *

Я ніколі не прагнуў улады,
Не хацеў аніякіх чыноў.
Не цягнула мяне на парады,
Да малых і вялікіх прызоў.

Не патрэбны мне ўсе ўзнагароды,
Апроч той, што ў сэрцы нашу,
Што прыняў яе сам ад народа,
Іншай я не прасіў, не прашу.

Мне належыць спрадвеку ўсё тое,
Чым жыву я цяпер і чым жыў,
Дар жыцця – дарагое, святое, –
Што з другімі і я заслужыў.

## МАЁ СУМЛЕННЕ

Хто мае законы піша
І на суд мяне мой кліча?
Маё сумленне.
Хто грахі мае ўсе лічыць,
Не дае іх павялічыць?
Маё сумленне.
Хто нязменны мой дазорца,
Ад спакусы абаронца?
Маё сумленне.
Хто за мной заўсёды крочыць,
За маёй душою сочыць?
Маё сумленне.
Хто пра чуласць маю дбае,
Шлях мой верны выбірае?
Маё сумленне.
Хто, не шкадуючы мяне,
Ўсё прычыняе мукі мне?
Маё сумленне.
Хто за свабоду ў бой ідзе
І мяне з сабой вядзе?
Маё сумленне.
Хто ад зары і да зары
Народнай праўды вартавы?
Маё сумленне.



Рака жыцця ніколі не мялее,
Яна цячэ з жывых яго крыніц,
Ад часу маладзее і старэе,
Выходзіць з берагоў ад навальніц.

Цябе нясе з сабой яе цячэнне
Праз усе парогі, ўсе віры
Ў тую далячынь твайго імкнення,
Якое дзесьці маяком гарыць.

І час паспешлівы плыве з табою,
А з ім – прастор і ростані дарог.
Ты стомлены, не ведаеш спакою,
Ўсё плывеш, плывеш, пакуль не змог.

Плывеш на ўсход ты за сваёй вясною,
Дзе мара твая светлая жыве...
Плывеш... Калі ж ты стрэнешся з зарою,
Да якой усё жыццё плывеш?



Жыццё з адных добротаў не саткана.
Дзе радасці расток, там гора з ім.
Якое б гора цябе ні спаткала,
Не гніся, не схіляйся перад ім.

Ў жыцці яшчэ так шчасця мала,
З цяплом душы сябруе часта золь...
Куды б, куды цябе бяда ні гнала,
Не забывай і пра чужы ты боль.

Не забывай пра слёзы роднай маці,
Пра скаргі, плач пакінутых дзяцей;
Не забывай, што на вайне ты страціў,
Хто там загінуў, хто асірацеў.

Ты бачыш: там стаіць салдат-калека.
Перад злом не адступай, не падай ніц,
Звані, звані з усіх зямных званіц:
Там крыўдзяць чалавека!

* * *

Не губіце, людзі, лесу маладога,
Дайце, дайце яму падрасці!
Колькі сустракаецца яшчэ благога,
Злога, цёмна-шэрага ў жыцці.

Цяжка праўдзе прабірацца праз сумёты
Крыўды, зла і ў сэрцах прарасці...
Дайце маладосці крылы для палёту,
Дайце маладосці расцвісці!

Вечар гасіць прамяністасць пазалоты,
Сонца змусіць ў цемры дагарэць...
Беражыце, людзі, старасць ад бядоты,
Дайце старасці вы дастарэць!



Ўглядаюся я ў твары мацярок...
О, Божа! Колькі імі перажыта!
Тут валадарыў звар'яцелы рок,
Тут ўсе сляды ягоныя адбіты.

Тут мора слёз і страчаных надзей,
Загубленых, знявечаных жаданняў,
Ўсе скаргі абяздоленых людзей,
І ўсе суквецці шчасных парыванняў.

Тут кожная запалая маршчынка
Змясціла згустак горнасці і болю, –
Застылая нявеtлая хмурынка
Няўцешна-сумнай чалавечай долі.

Тут ўсе запісы душы жаночай,
Пазывы любасці яе і дабрыні,
І радасці з тугой дзявочай,
І матчынай сардэчнай цеплыні.



Глядзі на свет з адкрытымі вачыма,
Ўсю палітру яго фарбаў адкрывай.
Зазнай ты кожную сваю магчымасць,
Нічога, што сустрэнецца, не праміцай.

Дайдзі ў жыцці да кожнае праявы,
Ва ўсе яго драбніцы зазірні,
Спасцігні сутнасць кожнай яго з'явы,
Ўсе яе старонкі разгарні.

І змерай тое, чым жыццё багата,
І ў яго задворкі загляні.
Падумай ты, якія беды, страты
Прынеслі людзям войны на зямлі.

Пазнай усе ягоныя ты тайны,
І тое вечнае, што будзе жыць.
Ва ўсім яго абліччы разнастайным
Знайдзі і тое, што табе баліць.

* * *

Знайдзі сябе, свой лёс зямны ва ўсім,
Што стрэнеш ты ў жыцці сваім.
Пазнай усё вялікае ў малым,
Ўсё незвычайнае – ў звычайным.
Нічога на шляху не праміні,
Ў глыб чалавечай думкі загляні,
Народнай мудрасцю ўзбагаці сябе –
І ўсё тады адкрыецца табе.

## ДЗЕ Ж АДКАЗ?

Пытаю я ў сябе самога,
Ды гэтым мучышся і ты:
Чаму на свеце зла так многа
І не стае так дабраты?
Дзе ж адказ на вечнае пытанне?
Даўно хачу яго знайсці...
Бяру ў сведкі ўсё дазвання,
Каб да высноў яго дайсці.
З глыбінь вякоў да нашай эры,
Пасля Хрыста каторы раз
Усе вучэнні і ўсе веры
Шукалі на яго адказ.
Усе прарокі, ўсе празорцы,
Заступнікі любві, дабра
І шчасця вечнага дазорцы
Імкнуліся здавён-даўна
Зусім, дарэшты знішчыць зло
І ўзнесці на пасад дабро.
Змяняўся час.
Прыходзілі нашчадкі
І новыя грамадскія парадкі,
А зло не адступала,
не прападала,
І зноў, і зноў пытанне паўставала
як наказ:
дзе ж адказ?

* * *

Адна думка ўсё мяне трывожыць,
Будзіць, не дае начамі спаць,
Мяне ў край мінулага заводзіць,
Будучае хоча адгадаць.

Што ж яе турбуе, непакоіць,
Што ёй, неспакойнай, так баліць,
І аб чым яна заўсёды мроіць,
Без чаго яна не можа жыць?

Мусіць, хоча зняць з жыцця аковы,
Мусіць, хоча сілы ўсе прызваць,
Каб у час наш атамны, суровы
Красу зямлі маёй уратаваць.

## ПЕРАД СУДОМ НАШЧАДКА

Ты іх, бязвінных, не віні!
Яны ні ў чым не вінаваты.
Ты ў памяці іх памяні,
Не патрабуй бязмернай платы.
Ты іх не віні!

Яны прайшлі цярністы шлях,
Азораны святлом іх веры.
Яны ўзнімалі праўды гмах
Бязмернай чалавечай меры.
Ты гэта ацані!

Яны гарэлі на агні
Сваёй высакароднай мары,
І ў тыя вогненыя дні
Яны ў агні вайны згаралі.
Ты гэта ацані!

Яны у турмах гаравалі...
Іх распіналі на крыжы...
Яны бязвінныя ўміралі...
Ты ў іх святое зберажы.
Ты іх не віні!

Яны пазналі жах крыві,
Пранеслі праз усе гады,
Праз пекла сталінскай бяды
Святое пачуццё любві.
Ты іх не судзі!

Ты спадчыну іх ацані
І ў ёй, цяпер, у нашы дні
Сцяблінку вечнасці знайдзі,
З сваёй душою парадні...
Ты іх не судзі!

# ГІСТОРЫЯ

Гісторыя не песціць, не цалуе,
Ты не чакай пяшчоты ад яе.
Яна сама і ў радасці гаруе,
І радасць сваю гору аддае.

Яна праходзіць праз тваю пакуты,
Праз жахі войнаў, смерці і віны.
Яна сама з сябе зрывае путы
Хлусні, несправядлівасці, маны.

Усім, хто праўдаю яе гандлюе,
Гісторыя выносіць свой прысуд.
За зло яна нікому не даруе...
Паўсюдна справядлівы яе суд!

Яна не мілуе ілжэпрарокаў,
Заўсёды выкрывае іх падман,
Ўсе іх прысяганні, усе зарокі,
Ўсіх прывабных абяцанняў зман.

Гісторыя сама сябе не судзіць,
І ты яе таксама не судзі.
Яна нязменна будучыні служыць
І ў даль жыцця ўпэўнена глядзіць.

# Я КНІГУ МУДРАСЦІ ЧЫТАЮ

Цябе я адкрываю кожны дзень
І кланяюся табе нізка.
Ты, кніга, ў свет мяне з сабой вядзеш,
Такі далёкі мне і блізкі.

З табою я ў мінулае іду,
Праз боль яго, праз яго мукі,
Ўбіраючы і радасць, і бяду,
Прагорклы смак яго навукі.

Праходжу я з табою праз вякі,
У глыб свабоднай тваёй думкі.
Са мною вечнай праўды маякі
І скарбы – мудрасці дарункі.

Ты тайны адкрываеш мне свае,
Ты вучыш жыць, даеш адказы
На ўсе пытанні вечныя мае...
І любы мне твае наказы.

І родніцца са мной далёкі свет,
З маёй душою паяднаны,
І мудрага Скарыны запавет
Маёю спадчынай абраны.

У век наступны я з табой іду,
Яго абрысы заўважаю,
Не ўсё з мінулага з сабой вяду,
Не ўсё сучаснае прымаю.

Ў гісторыі шукаю праўды я,
Яе урокі адкрываю.
І шчасцем поўніцца душа мая:
Я кнігу мудрасці чытаю.

# МАЁ "Я"

Іду шляхамі свайго "я",
Яго глыбіні вымяраю.
Перада мной душа мая,
Якую я ад роду маю.

Я гавару са сваім "я",
Сябе самога раздваяю,
Здалося мне, што "я" "не я",
Не аб сабе адным я дбаю.

Я гавару з ім як з сваім,
Ў самім сябе яго хаваю,
І тое, што маё ў маім,
Яго заўсёды адчужаю.

Адно маё "я" ў небе кружыць,
Хацела б там заўсёды жыць,
Другое "я" з зямлёю дружыць,
Дае наказ: зямлю любіць.

Адно – узносіцца высока
Ў далёкі свет людскіх надзей,
Другое – мроіць заглянуць глыбока
У сэрцы рэчаў і людзей.

Адно – ў нябеснай сіняй далі
Сабою хоча ўсё абняць,
Другое – на зямных скрыжалях
Зямлю і неба паяднаць.

Я кожны раз іх прыміраю,
Каб назаўсёды іх злучыць,
І кожны раз іх раздваяю
"Я" на "не я" ў сваёй душы.

* * *

*Унуку Аркадзю*

Спытаў я ў хлопчыка малога:
"Куды знікае час?
Ці захавае ён
што-небудзь на зямлі?
Ўміраюць людзі, зыходзяць пакаленні...
Старэем мы,
Старэюць нашы ўнукі...
Што пакіне нам –
Няўмольны спустошальнік гэты
І творца вечны?"
І адказаў мне унук мой:
"Памяць аб сабе".

## ПАМЯЦЬ

Багіня памяці са мной ідзе,
Па сцежках вечнасці мяне вядзе,
Туды, дзе мудрасць з харacтвом жыве.
У край цудоўных муз мяне заве,
У храм багіні перамогі Нікі,
У свет такі дзівосны і вялікі
Усіх мастацтваў, талентаў, красы,
Дзе чуюцца жывыя галасы
Паэзіі той вечна маладой,
Што не паддаецца сіле смерці
І вечная цяпер жыве са мной,
Святкуючы сваё бяссмерце.
І бачыцца ў вяках зямля мая,
Яе краса, ўсе яе святыні,
Іх зноў нанова адкрываю я,
Як дар памяці маёй айчыны.
У песнях-казках яго я пазнаю,
У спадчыне славутага Скарыны,
Ва ўсім, што радуе душу маю,
Ў гісторыі мінулага краіны.
Я з памяццю ў дваццаты век іду,
Ў век Коласа, у век Купалы.
Мінулае ў сучаснае вяду,
Ствараю свет свой небывалы.



Калі памяць мая помсціць мне,
Мяне ўспамінамі няволіць,
Сучаснае прыходзіць да мяне,
Каб маю думку запалоніць.

Іх заўсёды прымірдаю я,
Хачу іх паяднаць з душою, –
Тады памяць доўжыцца мая,
Сучаснае жыве са мною.

І думка мая сваёй кронай
Імкнецца ўвысь, дзе не бывала,
І ўзвышанай, азоранай
Ўрастае ў грунт жыцця трывала.

* * *

Усё вяртаецца ізноў
У вобліку сваіх абноў:
Той жа вечар, той жа час,
Тыя ж ружы залатыя,
Тыя ж словы без прыкрас, –
Усе тыя і не тыя.
Той жа мілы сэрцу звон,
Тое ж поле веснавое,
Тых жа птушак перазвон, –
Усё тое і не тое.
Той жа сонечны усход,
Тое ж неба агнявое,
Той жа ў небе заход, –
Як бы тое, ды не тое.

* * *

У муках сэрца ўсё спазнала,
Усё людское паяднала.
Ў яго схованках-крыніцах
Ўсё палярнае гняздзіцца:
Тут і міласць, тут і злосць,
Тут і сум, і весялосць,
Тут і холад, і спякота,
Тут і радасць, і маркота,
Тут і мужнасць, і цярпенне,
Тут спакуса і маленне,
Тут і грэх, і пакаянне,
І змярканне, і світанне,
Тут і пекла, тут і рай...
Ўсё, што хочаш, выбірай.

* * *

Ў жыцці заўсёды ёсць, што выбіраць...
Якая шыр, які прастор для ўзлёту!
Выбірай, гадай... Ды што тут мне гадаць:
Рыхтуюся, як птушка для палёту.

Хацеў бы выбраць я, напэўна, рай
І пасяліцца, шчасце, там [redacted] табою.
Ды толькі як цябе ні выбірай,
Спачатку ў пекла трапіш з галавою.



Стаю на ростані былога й небылога,
На збегу, скрыжаванні іх дарог,
Нясу ў сабе святло старога й маладога,
Таго, што з часам не згубіў, збярог.

Іду ў мінулае – ў сучаснае трапляю,
А будучае бачу толькі ў сне.
Яго сваім я летуценнем акрыляю
Ў думках-чараўніцах па вясне.

Мае надзеі, мая вера – дом адзіны...
Не ведаю, чым увекавечыць мне яго:
Хіба пайсці мне ў храм багіні Мнемазіны
І там знайсці скарб вечнасці яго?



Былое ты аддаў мне назаўсёды,
Сучаснае усё яшчэ са мной,
А будучыні маладыя ўсходы
Далёка за нябачанай гарой.

Ты пільна ад мяне яе хаваеш,
І так дбайна яе беражэш,
І часта нечакана забіраеш,
І так неахвотна аддаеш.

Мой час, ты тайну будучыні знаеш,
Чаму ж не хочаш мне адкрыць?
Напэўна, ты таму яе хаваеш,
Каб сучасным мог я даражыць?

## БУДУЧЫНЯ

Цябе мы, будучыня, так чакалі,
Так прагнулі ўбачыцца з табой.
Цябе мы ў марах нашых гадавалі
Чараўніцай-незнаёмкай дарагой.

Для цябе мы вежы будавалі,
Вышынныя палацы, гарады,
Саміх сябе табе мы аддавалі,
Увесь запал наш юны, малады.

Ўсё для цябе адной ахвяравалі,
Ўсё для цябе апчадна бераглі,
І жыццяя свайго не шкадавалі,
Ішлі ў агонь, згаралі у агні.

Цябе мы ў сэрцах нашых набліжалі,
Каб сустрэцца, падганялі час,
Усіх на ўсіх узроўнях абганялі,
А ты, ты аддалялася ад нас.

* * *

Чым вымераць цябе, жыццё,
Дзе мне знайсці такую меру,
Каб здзейсніць цуда-адкрыццё
І ўсю тваю бязмернасць змераць?

Як думкай ахапіць твой свет,
Твае бясконцыя прасцягі,
І твой найпершы першацвет,
Твае пачаткі і працягі?

І як пазнаць твае віры,
Твае бяздонныя глыбіні?
Як ацаніць твае дары,
Твае спрадвечныя святыні?

Якія шалі трэба мець,
Каб мне красу тваю ўзважыць,
Яе законы зразумець
І ўсё святое не абразіць?

І як яе мне захаваць,
І як яе не запрыгоніць,
Ўсё чалавечае пазнаць,
Ўсё чалавечае ўзаконіць?

* * *

У гэтым свеце далёкім і блізкім
Адусюль галасы зноў чуваць:
"Веры страчанай абеліскі
На магілах былога стаяць".

І ці прыйдзе ім хто пакланіцца
І паплакаць, душой спагадаць?..
Толькі вечнаму можна маліцца,
Толькі праўду з сабой трэба браць.

Але як у часовым і тленным
Зерне вечнасці тое пазнаць, –
Вось загадка, якую нязменна
Я спрабую ў жыцці адгадаць.

* * *

Не ўсе сцежкі на свеце пройдзены,
Не ўсе загадкі ўжо разгаданы,
Не ўсе адказы на іх знойдзены
І ці будуць калі даказаны.

А колькі мараў людскіх не спраўджана,
Жыццём аніяк не асвечана,
З народнай праўдаю не зладжана
І ёю ніяк не прывечана.

І ўсё ж кожная нешта значыла,
Без яе было б нешта страчана.
І, можа б, штосьці не радзілася,
І, можа б, ісціна спазнілася?



Ты, вечнае, дзесьці так далёка...
Да цябе стагоддзямі ішлі,
Цябе шукалі ўсе прарокі,
Што спрадвеку па зямлі прайшлі.

Дзе пачынаюцца твае ўладанні,
Дзе знаходзяцца яны ў жыцці?
Як майму зямному вандраванню
Па тваіх крутых шляхах прайсці?

Ці ўхваліць час неміласэрны,
Ці ацэніць, што мы берaглі?
Ці будзе вечнасці патрэбна
Ўсё, у што верылі і чым жылі?

Што захоча ён увекавечыць,
Што ён захавае, памяне,
Што ахрысціць і ачалавечыць,
А што абясславіць, пракляне?

Колькі міфаў патанула ў вечнасць,
Колькі ценяў адышло туды...
Дзе царуе з праўдай чалавечнасць,
Там і вечнае жыве заўжды!



Усё, што ў жыцці наканавана,
Я ведаю: мне прыйдзецца прайсці.
І хоць многае ўжо лёсам даравана,
Нядоўга засталося мне гасціць.

Пакінуць след, прайсці дарогі веку
І выстаяць у штармавых вірах ізноў, –
Ўсё гэта суджана мне, чалавеку,
На схіле растрывожаных гадоў.

Суровы час! І роздум, і трывогі...
Прыкметы новага. Туга і стынь...
Наперадзе нязнаныя дарогі
І водбліск неасвечаных святынь.

І хоць мяне нішто не абміне
У гэтай круцізне жыцця вірлівай, –
Усё ж ляціць аднекуль да мяне
Вяшчуння маёй радасці зманлівай.



Куды спяшаешся ты, час нястрымны?
Пакінуць хочаш век наш штармавы
З яго засевам стомлена-надрыўным
І сцвердзіць недзе там свае правы?

Прарвацца хочаш праз усе цянёты,
Праз пекла здрады, прагнасць махляроў,
Праз усе завалы, схованкі, замёты
Няпраўдаю завязаных вузлоў?

Навечна хочаш змесці ты з зямлі
Ўсеўладнасць сілы жорсткасці і зла,
Каб людзі вольна ўздыхнуць змаглі
Ад стомы, што планету аблягла.

Ці хутка, час, прыспешыш тыя дні,
Ці прычакаю я тае пары,
Калі на ўсёй зямлі запаліш ты агні
Сваёй нязгаслай у вяках зары?

## ЗАПЫТАННЕ

Наступны век, чым ты сябе праславіш,
Што спраўдзіш, упрыгожыш, узнясеш,
Што з памяці мінулага прывабіш
І што на крылах мары прынясеш?
Што ты напішаш на сваіх скрыжалях?
Ці сцвердзіш мір, братэрства, згоду
І ці заззяе ў тваіх блізкіх далях
Зара гармоніі людскога роду?
І ці ўратуеш ад бяды планету,
Ад смерці атамнай яе пазбавіш?
Як адсвяткуеш перамогу гэту?
Які ты помнік ёй паставіш?
Якім прарокам незнаёмай веры,
Спрадвечнай праўды яснатворцам
І новых догмаў міфатворцам,
Адчыніш ты ў будучыню дзверы?
Якія абяцанні-запаветы
Пакінеш ты наступнікам сваім
У доўгай іх хадзе да новай мэты?
Якімі ружамі усцеліш сцежку ім
Да ісціны, да храма вечнасці?
Ці ўзаконіш ты, багаславёны век,
Для ўсіх часоў, для ўсіх людзей навек
Святое права чалавечнасці?

## ПАЭЗІЯ

Як мне, паэзія, ўвайсці ў твой свет,
Адкрыць усе твае законы,
Тваёй музы шматвяковы запавет,
Твае ўслаўленні і праклёны,
Ідэалы, страсці, парыванні;
Тваёй праўды вечны гарызонт,
Твае думы, воклічы, прызванні,
Тваёй мары ясназорны ўзлёт?
І як пазнаць мне моц тваёй любві,
Твой боль і ўсе твае пакуты,
Ўсе, што згарала ў тваім агні,
Зрывала са свабоды путы?
Чым вымераць усю тваю красу,
Тваю чароўнасць і ўсе тайны,
Як мне абняць бязмежнасць тваю ўсю,
Твой свет вялікі, мнагастайны?
І як у гэтым свеце мне знайсці
Мой шчасны лёс, мае імкненні?
І як да ісціны з табой дайсці
Цяперашняму пакаленню?

## ЗОРНЫ ЧАС

У кожнага бывае час свой зорны,
Кіпенне маладое творчых сіл,
Калі гарацьў душы маёй ўсе горны –
Агонь той скрыты, што ў сабе насіў.
Імгненна нараджаецца натхненне,
Прыходзіць нечакана да мяне.
Лаўлю той міг святога захаплення,
Што свеціцца, праменніцца ўва мне,
Калі царуе дзіва-азарэнне,
Гарачай хваляй ахапляючы мяне.
Ўсе музы ў гэты час, нібы у сне,
Ідуць аддаць сваю даніну мне,
Упрыгожыць радаснасць натхнення.
Шчаслівы час. І дзеецца тварэнне.



З поўнай сяўнёю часіна
Зноў нечакана найшла,
Нейкая дзіўная сіла
Па мне, як агонь, прайшла.
Чымсьці мяне ахапіла,
Нечым мяне праняла,
Чымсьці мяне адарыла,
Нечым мяне абвіла.
Нешта ўва мне ўваскрасіла,
Нешта да сонца ўзняла,
Нешта ўва мне пагасіла,
Нешта навек зберагла.
Штосьці ўва мне заспявала,
Штосьці ўва мне узышло,
Штосьці на струнах зайграла,
Штосьці па сэрцы прайшло.
Моўчкі стаю ў здзіўленні,
Дзіўную казку лаўлю,
Гэтай часіне гарэння
Нешта сваё аддаю.

* * *

Часта ты мяне пытаеш,
На што час я трачу.
Хіба сам таго не знаеш:
На сябе батрачу.

Кожны міг я зберагаю,
Кожную хвіліну значу.
Ад таго карысць я маю...
Не магу іначай.

Твор звышмодны я чытаю,
Над ім слёзна плачу,
Разам з аўтарам трываю...
Кожны дзень рыбачу.

З ім сяджу і засынаю,
З ім і спаць кладуся...
Сею, жну і спажываю
З ім жа у хаўрусе.

Той раман я ў стол хаваю,
Каб ніхто не бачыў.
Пра душу я вельмі дбаю,
На яе батрачу.

* * *

Іду, з сабою раюся,
Ў сваю душу ўглядаюся,
Да памяці звяртаюся,
Ў мінулае ўзіраюся,
Ў сучаснае вяртаюся,
Яго пазнаць стараюся,
З самім сабой спрачаюся,
Да праўды дабіраюся.

* * *

Душа стамілася мая
І ёй няма спачыну.
Сябе перамагаю я
У гэтую часіну.

Хачу агонь я зберагчы,
Якім душа свяціла.
Хачу я ёй дапамагчы
Ў любві пазычыць сілу.

Надзеяй, верай акрыліць,
Ад іх шукаць падмогі.
Святлом радзімы блаславіць
Твае, душа, дарогі...

* * *

Душа нястомная ў znямозе,
Няма спачыну прагнай ёй.
Яна заўсёды у дарозе,
У пошуках зары сваёй.

Яна – ўся страсць, і ўся – імкненне
Да неабсяжнай шырыні...
Яна – парыў і захапленне
Прасторам зорнай вышыні.

Яна шукае тыя далі,
Дзе вечна свецяцца агні,
І дзе зыходзяцца скрыжалі
Людской любві і дабрыні.



Бываюць хвілі смутку і тугі,
Затоенай бязмоўнай скрухі,
Калі расток надзеі дарагі
Гібее ў стыні завірухі.
Калі без сонца ўсё кругом,
Калі і на душы сумёты,
Калі грыміць маўклівы гром
Маёй хмурлівай адзіноты, –
Тады іду самотны да людзей,
Да іх святла ізноў імкнуся,
Хачу ім асвяціць свой кожны дзень
І жыць з надзеяй у хаўрусе.

* * *

Куды ні йду, і ты ідзеш са мной,
За мной услед, як цень, як зман, як здань...
Мы так ужо стаміліся з табой.
Прашу цябе: "Не дакучай, адстань".

А ты не адступаеш ні на крок,
Ідзеш, стараешся не збочыць.
Няўжо са мной, з душой маёй мой рок
Кудысьці ў невядомасць крочыць?

А можа сам я гавару з сабой?
"Хто ты, адкуль, з якой дарогі?" –
Пытаю я, і чую голас свой:
"Твой неспакой, твае трывогі".



Стаю на ростані крутых дарог...
Нямая даль перада мною
Яшчэ нікім не зведаных трывог
На сэрца навалілася гарою.

Змяняецца жыццёвы краявід,
Ды толькі ён душы не цешыць,
Бо новае – мінулага прывід –
Усё задыхаецца і грэшыць.

Чаго чакаць? Да знаных перамог
Кладзецца цень халоднай ночы...
Не дай жа бог, каб гэты цень ды змог
Маю надзею зноў азмрочыць.

* * *

Што, жыццё, ты тоіш,
Ад мяне хаваеш?
Аб чым вечна мроіш,
Хіба адгадаеш?
Што яшчэ народзіш,
Ад чаго пазбавіш,
А што амалодзіш,
Чым яшчэ забавіш?
Колькі міфаў створыш,
Колькі пахаваеш?
К шчасцю след праторыш,
Ды ці захаваеш?
Чым яшчэ ты здзівіш,
Чым шляхі азорыш,
Чым іх апчасліўіш
І сябе ўпрыгожыш?

* * *

Жыццё святлее і хмурнее,
Знаць, такая яго страсць:
Ці то ласкай абагрэе,
Ці то холадам абдасць,
Ці то радасцю прынадзіць,
Ці то болем апячэ,
Ці то мараю заманіць,
Ці то зманам апляце,
Ці то сонцам зноў асвеціць,
Ці то хмарай ахіне.
Што ж, такім яго прывеціць
Лёсам суджана і мне.

* * *

У жыцці так шмат яшчэ завалаў,
Заблытаных дарог і пераходаў,
Абрываў, нечаканых перавалаў,
Закінутых, няходжаных праходаў.

Дзе ж выхад той? Дзе знайсці параду?
Як прайсці мне праз усе парогі?
Хіба клікнуць сюды Арыадну
І ў яе прасіць мне дапамогі.

Яе нітка-чарадзейка можа
Выйсці з лабірынтаў дапаможа.
Але перш разбудзіць багіню трэба,
Што спіць там без ніякае патрэбы.



Чаму маліліся з табою,
Што, як святыню, бераглі,
Усё пакрылася імглою,
Усюды цені палеглі.

Старэюць, у памяці знікаюць
Імёны, назвы і сцягі...
Памінкі тлумныя спраўляюць
Па ўсім ранейшым, дарагім.

Цямнеюць, гаснуць, дагараюць
На зыркім вогнішчы гадоў
Ўсе сімвалы зямнога раю
Старых пакінутых багоў.

Але жыццё, што ўсё ўзрасціла,
Ніпто не можа зруйнаваць:
Яно ўсе колеры ўмясціла,
Каб іх навечна захаваць.



Ты кажаш мне: усё ўжо страчана,
Ўжо надышоў цяпер апошні час...
Жыццё, мяне ты азадачыла
Сваёй бязладнасцю не першы раз.

Ты ставіла мне часта перашкоды,
Змушала ўсе парогі абіваць
І слаць праклёны з кожнае нагоды,
Ўсё скардзіцца на лёс і гараваць.

На рынак выгнала мяне з бядою,
Яго стыхіяй агарнула, апляла;
Ўсё, што мелася, было са мною,
Забрала, адабрала, адняла.

Цяжар гадоў на плечы ўзваліла,
Каб вызваліцца я ніяк не змог.
Душыла болем, голадам марыла...
Хіба такое мог прыдумаць Бог?

Хто ведае, што ты яшчэ рыхтуеш,
Якія нечаканасці нясеш...
Калі ж ты назаўсёды адлютуеш
І ўсё ж з надзеяй шчасце прынясеш?

* * *

Куды ты йдзеш, мой суайчыннік,
Што ты выбраў на сваім шляху?
Здабытую навек свабоду
Ці стомленасць, пакорлівасць душы?
Што зможаш перадаць нашчадкам,
Які народу скарб нясеш?
Штодзённы доўг свой неаплатны
Ці дбайны плён свабоднага жыцця?

* * *

Давай з табою памаўчым,
Падумаем, разважым.
Скажы, чаму мы так крычым
І, што хвалілі, пляжым?

І безаглядна – што ні крок
Ўсё чарнатою значым.
Ў мінулым заўважаем змрок,
Прасветласці не бачым.

Нанова распінаем час,
Аб памяці не дбаем.
Бяздумнасць ахінае нас,
Сябе мы абкрадаем.

Мы ганьбім спадчыну бацькоў,
Іх славу прыніжаем.
Рвучы жывую ніць вякоў,
Беспамяцтва ўслаўляем.

* * *

Дзе цяпер жывуць рамантыкі,
Дзе іх мары, палкасць пачуцця?
Можа іх душа на берагах Атлантыкі
Пасялілася пад вечар забыцця?

Можа там ім шчасце мроіцца,
Ў марах сонечных сады цвітуць?
Толькі ім заўсёды нездаровіцца,
Дзе прагматыкі таргі вядуць.

* * *

Мітынгі, прамовы, дэманстрацыі,
Плакаты, заклікі, кляцьба...
У паходзе-маршы дэмакратыя...
Зноў наш лёс гартуе барацьба.
Як нам ад зласлівасці адвыкнуць,
Як жа не стае нам дабраты!
Цяжка к дэмакратыі прывыкнуць
Пасля доўгай нашай нематы.

## НЕЧАКАНЫ ПАВАРОТ

Ўсё, што злева, паправела,
Ўсё, што справа, палявела;
І зусім наадварот:
Нечаканы паварот.
Неспадзеўна верх змясціўся
І на ніз перамясціўся.
Ну а ніз палез наверх
Праз адзін, другі паверх.
Так бывала і не раз:
Пераходны, браце, час,
Калі ўсё бурліць і бродзіць,
І другое нешта родзіць,
Калі белае чарнее,
А ўсё чорнае бялее.
І зусім наадварот:
Нечаканы паварот.

* * *

Павароты, павароты...
Колькі я іх перажыў!..
Ўсё рабілася ўпотай...
І за кожным кроў, крыжы,
Ганьба, здрада і праклёны,
І пакуты без канца.
І прыходзіць хтось хвалёны
Замест зніклага айца.



О, колькі рэфарматараў-прамоўцаў,
Пямешаных на эйфарыі слоў,
Апранутых у мантыі празорцаў
І новых будучых часін паслоў,
Спрабуюць паказаць нам шлях пазнаны
Да новых, светлых, ясназорных дзён.
І ўзводзяцца прароцтваў вежы-зманы –
Знаёмых летуценняў марны плён.
Якія б ні давалі нам зарокі,
Якім бы шчасцем ні манілі нас, –
Я ведаю: не гэтыя прарокі
Адкрыюць светлы шлях у новы час.

* * *

Вялікае не месціцца ў малым,
Яно заўсёды ў спрэчцы з ім
І ўсё ж не можа абыйсціся без малога.
Ад малога да вялікага дарога,
І кожны дзень мы робім адкрыццё:
З малога і саткана ўсё жыццё.



Ўсё ты хочаш змерацць і ўзважыць,
Ўсё падлічыць і пераважыць,
Ўсяму сустрэчнаму даць мету,
Дайсці да ўсіх загадак свету.
На свеце ёсць жа і такое,
Ўсё высокае, усё святое...
Яно не паддаецца ліку,
Жыве сваім жыццём вялікім,
Такім бязмерным і шматлікім,
Што вечнаю красой уразіць.
Таго ў лічэбніках не знойдзеш ты,
Што можна вымерацць і ўзважыць
На шалях чалавечай дабраты.

* * *

Не ўсё, што на свеце аквечана,
Прыгожым назваць я магу.
Прыгожае ачалавечана...
Яго, як жыццё, берагу.

Прыгожае ўвекавечана,
Азорана шчасцем людзей,
Свабодай і праўдай асвечана,
Пяшчотай людскіх надзей.

Прыгожае асардэчана
Паэзіяй з даўніх часоў,
Услаўлена і прывечана
Сузор'ем яе галасоў.

* * *

Ёсць дзіўная, нязвыгчная часіна,
Калі ўсё інакшым бачыцца табе,
Калі мінулага жыцця даніна,
Нібы мігам адыходзіць ад цябе.

Калі душа на ўзлёце прадчування
Ў бясконцасці другіх дарог жыве
І ў прагных палымяных парываннях
Цябе туды, ў нязведанасць заве.

І думка вырываецца на волю,
Імчыць нястрымана да зорнай вышыні...
І свецяцца тады на зорным полі
Яе таемныя і вечныя агні.

* * *

І засвяцілася імгненне
У вечнай плыннасці быцця,
І не памеркла азарэнне
Абуджанага пачуцця.

Яно ўмясціла думкі прагнасць
І даль, куды мой дух сягнуў,
Усю зямную неагляднасць
І ўсплеск нябеснага агню.

І ўсё, што ў момант перажыта,
Што прыйшло і адышло,
Ў адным парыве было зліта,
Адным імгненнем узышло.

* * *

Я іду насустрач мары,
Чараўнічай, незвычайнай...
Разгадаць бы яе чары
З іх нявыказанай тайнай.

Я іду насустрач веры...
Хай вядзе мяне з сабою
Ў свет вялікі і бязмерны
З яго славай маладою.

Толькі дзе цяпер надзея,
Што стамілася ў знямозе?
Ці сустрэну яе дзе я
На запозненай дарозе?

## Я – МАРА ТВАЯ

Ты ляціш праз час і прастору,
У бязмежную даль,
да высокага неба,
туды, дзе сонца.

Я хачу быць з табой,
я лаўлю твой
кожны ўзлёт.
Часам ты разгараешся, палымнееш
на зорным небе
маёй душы,
Прагнеш адкрыцца мне...
І тады становішся такой зямной,
такой блізкай,
такой любай і дарагой.
Але раптам зноў аддаляешся,
знікаеш,
як туман у яснасці дня,
як мімалётнае імгненне,
як летуценне маё.
Як разгадаць цябе,
мая красуня-незнаёмка?
Хто ты такая:
- Я – мара твая.



Як сонца зноў азалаціла неба,
Адкрылася для радасці і хлеба
Такім светлым, чыстым, вечна маладым,
Людскому сэрцу мілым, дарагім.

Калі б можна было гэта ўсё прыняць,
Без хмурынкі назаўсёды захаваць.
Але бясхмарным не бывае неба,
Без хмурынкі не было б і хлеба.



Ўсё, што прырода вечная стварыла,
Жыве для шчасця, для яго красы.
Яна ўсюды з маім сэрцам гаварыла,
Я слухаў яе праўды галасы.

І гэта сонца, і гэтую сінь неба,
І гэту даль, і гэты водар траў, –
Ўсё гэтае я разам з чорным хлебам
Не раз для свайго шчасця адкрываў.

Мне люба тут усё: гэтыя прысады,
І гэты лес, ў які не раз хадзіў,
І гэта квецень маладога сада,
Які ў душы яшчэ раз пасадзіў.

І ён расце, разрастаецца, вясную,
Ўсю прыгажосць сваю мне аддае.
Як памятку жыцця яе нясу я,
Яна жыве са мной, яна ўва мне.



Хацеў бы я душой адбіцца
Ва ўсім, што прагне адрадзіцца,
І што красуе, маладзіцца;
Прыродзе-маці пакланіцца:
Вясной – абуджанай зямліцы,
Іскрыстай ранічнай расіцы,
Зазелянелай на лугах травіцы,
Асвежанай вадзе-жывіцы,
Прыгожай ружы-маладзіцы,
Пяюні-птушцы-жартаўніцы...
Знайсці з усім суладнасць, згоду,
Зрадніць сябе з душой прыроды.

* * *

Я пазнаю цябе ва ўсім,
Што сустрэну на шляху сваім:
У майскай квецені садоў,
У золаце тваіх дажджоў,
У свежай белізне бяроз,
У яснай вышыні нябёс,
У чысціні жывых крыніц,
У песнях птушак-чараўніц.
На ўсім святло твае зары,
Твае набыткі і дары,
Тваёй суладнасці плады,
Твой свет паўсюдна малады.



Усё, што ў жыцці сустракаю,
З усім парадніцца змагу,
Усё да сябе прылучаю,
Усё, як красу, сцерагу.
І гэтыя светлыя вёсны,
І гэты бязмежны блакіт,
І гэты прыгожа-дзівосны
Адвечных лясоў аксаміт.
І гэтыя спелыя нівы,
І гэты бязмежны прастор,
І гэты далёкі зманлівы
Адбітак расквечаных зор.
Ўсё гэта адродзіцца, ўскрэсне,
Асвеціцца думкай жывой,
І ў сэрцы народзіцца песня
Са светлай і чыстай слязой.

* * *

Вясны прыход я сустракаю,
Руку маю ёй падаю,
Яе квітнеючаму маю
Ўсяго сябе я аддаю.
Гляджу на гэта красаванне,
Яго прастор і шырыню.
Нібы маё з вясной спатканне
Перажываю ўпершыню.
Вясна жыве, вясна гамоніць,
Вясна свой голас падае,
Вясна свае дарункі дорыць,
Ў суквецці фарбаў аддае
Лясам, лугам, азёрам, рэкам,
Ўсяму жывому на зямлі.
Яна ўзнімае чалавека
На вышыню сваёй любві.



Пад сонечным святлом лугі і нівы
Убраліся ў красу сваю ізноў.
І вецер такі мілы, гаварлівы
Калыша ціха белізну садоў.

Вясна жыве, не ведаючы стомы,
Здаецца, толькі думаю адной.
І дуб, яшчэ з маленства мне знаёмы,
Нібы хоча сілу падзяліць са мной.

І мною ўзгадаваная бяроза
Нібы цягнецца лісцем да мяне.
І кветкі, не кранутыя марозам,
Красу сваю аддаць гатовы мне.

Даносяцца птушыныя напевы
І недзе замаўкаюць ў цішы.
Усюды чуюцца вясны павевы...
Як хораша, як светла на душы!



*Уладзіміру Гніламёдаву*

Гэта неба, гэта сонца,
Гэты светлы далягляд,
Гэты спеў жыцця бясконцы,
Гэтых сосен стройны рад,
Гэты луг, што змог прыбрацца
І аквеціцца вясной, –
Хіба можа што зраўняцца
З гэтай дзіўнаю красой?



Які шырокі свет перада мною!
Які прастор, якое мноства з'яў!
Тут ўсё асвечана вясною,
Тут кожны куст красой зазззяў.

Куды ні паглядзіш – усё красуе
І свеціцца ў душы маёй.
Да кожнай кветачкі вясна вяснуе
З вітальнаю красой сваёй.

І я стаю зачараваны ёю,
Ўдыхаю гэту квецень ніў,
Нясу ў сябе, бяру з сабою,
Што май з душою парадніў.



Які дзівосны гэты цвет вясны,
Якая гарманічнасць свету!
Такога не прыдумаць, не сасніць
Ва ўсіх драбніцах і прыкметах.

У кожным подыху яе жыцця,
Такім мне блізкім, такім мілым,
Я бачу непаўторнасць адкрыцця
Яе нерукатворнай сілы.

Хачу я ў гэтым свеце ўсё абняць,
Зрабіць сваім, душой прывеціць,
Усё у ім пазнаць, усё прыняць,
Усё сабой ачалавечыць.



Вясна гамоніць і спявае,
Знімае скрозь зімовы сон;
Прыгоства свету ўслаўляе
Яе прыветна-мілы звон.

Прырода ў сонечным убранні,
У квецені садоў і ніў...
Як мне ўславіць гэта ззянне,
Жывой красы яго разліў?

Як мне прадоўжыць час спаткання
З прыволлем гэтых кветак, траў?
Як мне пазбегнуць расставання
З красой, што май падараваў?

Дзівосная пара квітнення,
Цябе, як шчасце, берагу
І кожнае тваё імгненне
Хачу спыніць і не магу.



На свята кліча прыгажосць
Усіх, хто ёю паланёны.
І я таксама яе госць,
Прыношу ёй мае паклоны.

Хачу ў вясны пагасцяваць,
Сустрэцца з ранішняй зарою,
На сваце песні пабываць
Пяюнняў-птушак той парою.

Пайсці ў поле, на лугі
Да першых кветак на спатканне
І зноў вітаць іх, дарагіх,
У час шчаслівы красавання.

Зайсці ў лес, што за ракой,
Дзе ветла свеціцца каліна,
І дзе абняў лясны спакой
Прыхільна-ціхі гул пчаліны.

Пачуць журчанне раўчука
І подых лісцяў на бярозе;
Прысесці там і пачакаць
Таго, хто прыдзе ў нямозе.

Іду сюды, і кожны раз
Мяне вядзе адна дарога:
Краса ва ўсім навокал нас,
У подыху ўсяго жывога.



Ўсё сцішылася, змоўкла, анямела,
Застыла ў высі лёгкая хмурынка.
І толькі песня салаўя звінела,
Як светлай радасці іскрынка.

Яна будзіла залатое ранне,
Світальнае маўчанне цішыні,
І клікала мне сонца на спатканне,
І раніцы барвовыя агні.

І чулася ў той песні веснавое,
Здаецца, ўсё наўкол спявала з ёй...
І штосьці роднае і дарагое
Азвалася, як спеў, ў душы маёй.



Колькі кветак ў родным краі,
Колькі траў духмяных!
Кожны год я вас збіраю,
Добрай славай знаных.

Зноў іду па сцежках росных,
Дзе чабор, суніцы,
Дзе квітнеюць мёданосы,
Мяты, медуніцы.

Вас я кожны раз вітаю,
Ландышы, брусніцы –
Кветкі сонечнага маю,
Травы-чараўніцы.

Май нясу ў сваю хату,
Песнямі апеты.
Дар жаданы, дар багаты:
Кветкі-сонцацветы.



Іду адзін сцяжынкай палявою,
Навокал разляглася далеч ніў.
І ўсё, здаецца, йдзе туды са мною,
Куды за шчасцем некалі хадзіў.

Усё азалаціла маладое ранне
На ўсходзе светла-сонечнага дня.
Адзелася ў святочнае ўбранне
Уся мая вясенняя радня.

Як хораша зазелянелі нівы
Пад сонцам у блакітнай цішыні;
Яго святла ласкавыя прылівы
Зліваюцца з нябеснай вышыні.

Якое шчасце бачыць гэта неба,
Удыхаць настой духмяна-хмельных траў
І адчуваць ва ўсім прысутнасць хлеба,
Адвечнасць і ўсеўладнасць яго праў.

І ўславіць ў прыгажосці дарагое,
І нізка, нізка пакланіцца ёй,
І захаваць навекі ўсё святое,
Што пасялілася ў душы маёй.

## МОЙ ЛЕС

Іду, мой лес, цяпер я да цябе,
Да красы тваёй, такой мне мілай.
З маленства я нашу яе ў сабе
І сэрцам адчуваю яе сілу.

Я з кожным тваім дрэвам гавару
На мове нашай шчырай, вечнай згоды...
Заўсёды я дары твае бяру,
А ты маёй чакаеш ўзнагароды.

Ў тваіх пушчах, дзе жыццё гамоніць,
Мне чуюцца жывыя галасы.
Тут кожная хваінка чуйна мроіць
Надоўга захаваць вясну красы.

Тут ўсе турботы толькі аб жыцці,
І ўсе здаўна смуткуюць аб прасторы.
Тут кожны кусцік хоча падрасці,
Адклікнуцца у шматгалосым хоры.

Цябе, мой лес, іду я сцерагчы
Па сцежках родных ад бацькоўскай хаты...
Тваю красу мне трэба зберагчы,
Данесці да нашчадкаў дар багаты.



І гэты блізкі лес, і ўсё наўздзіў
Стаілася ў загадкавым маўчанні.
Сюды не раз я стомлены хадзіў
З сяброўкай-цішынёю на спатканне.

Знаходжу зноў знаёмы краявід
І слухаю душой яго дыханне.
Увесь ён цішынёю апавіт,
Парой зачараванага маўчання.

І сеецца дабро з яе сяўні...
Яго святло, як і раней, са мною.
Не спалохаць бы мне гэтай цішыні,
Не парушыць бы яе спакою.



З кім я толькі ні сябрую,
З кім я толькі ні дружу.
Кветку кожную мілую,
Дрэвам кожным даражу.

Гэту ліпу маладую
Да сябе у сад бяру;
Як сяброўку дарагую,
Я да сэрца прыгарну.

У той бярозе пры дарозе
Я сваячку пазнаю,
І пры кожнай ёй пагрозе
Я руку ёй падаю.

З гэтым дубам прывітацца
Я прыходжу на зары.
У яго хачу дазнацца,
Як ён маецца, стары.

З гэтым клёнам кожны вечар
На спатканне я іду
І ў час кожнае сустрэчы
З ім, як з братам, гавару.

Гэту вербачку малую
Я ад згубы берагу,
Разам з ёю я гарую,
Яе долю сцерагу.

З кім я толькі ні сябрую,
З кім я толькі ні дружу.
Кожны кусцік я шкадую,
Кожным дрэвам даражу.



Ёсць час вячэрняй цішыні,
Чароўна-светлай асалоды,
Калі закат гарыць ў агні,
І свеціцца душа прыроды.

Як ціха шэпчуцца сады,
Як стрымана гамоняць дрэвы...
І тут, краса, твае сляды,
І тут гучаць твае напевы.

Спасцігні гэты момант ты
Душой, яго святлом абнятай,
У гэтых промнях залатых,
Разлітых ў небе так багата.

Гляджу на казачны закат,
Што ў далечы з вачэй знікае,
І сумна мне, што сонцаспад
З красой і страты знак хавае.



Так раптам неба пацямнела,
І дзень зняможаны пагас.
І толькі ў далечы нясмела
Цягнуўся след яго акрас.

У гэтай цемры непрагляднай
Знямела верхаводзіў сон.
І толькі воддаль так прывабна
Яшчэ звінеў вячэрні звон.

А ноч цямнела, усё цямніла
На нівах, на лугах, лясах...
І толькі неба залаціла
Маўкліва-зорная краса.



Якая ноч! Ўсё сціхла, замаўчала,
І толькі зязюленька ўсё вяшчала.
Дзякую табе, мой мілы, шчыры госць,
За тое, што ты на гэтым свеце ёсць,
Што ўсю ноч не спіш, да раніцы гадаеш
І людзям дабрыні заўжды жадаеш,
Мае гады астатнія ўсе лічыш
І кожны раз мне нешта зычыш.



Як хутка восень абмінае лета,
Спяшаецца на ўсім пакінуць свой убор.
І на душу – я адчуваю гэта –
Кладзецца барваю аздоблены узор.

І тоіцца ў асенняй пазалоце
Няўмольнасць страты і красы жыцця,
Што бачыцца на кожным павароце
Прыроды векавечнага быцця.

Спяшаюся я з ёю на спатканне,
Увесь агорнуты вячэрняю смугой,
Іду насустрач смутку развітання,
Няўцешнай радасці са светлаю тугой.



У кожнай восені свая краса,
Свае фарбы, свае барвы, ўзоры,
Свая вераснёвая духмянасць
І золкі непагодны лістапад
З тужлівай, журботнай пазалотай.
І ў маёй восені ўсё сваё:
Сваё святло і доўгі, доўгі цень,
Свая тужлівая пазалота.



Як раптам зноў пахаладнела,
На дрэвах ўсё абледзянела.
Зямля пакрыта коўдрай снегавой
З яе застылай памяццю нямой.
Якая стынь! І ўсё ж, усё ж з травой
Пад гэтай стынню ледзяной
Іскрынка кволай цеплыні жыве
І сэрца радуе, к сабе заве.



Юнацтва – мілы цвет вясны...
Яно ўсе колеры ўбірае,
Ўсе неразгаданыя сны,
Што ад кахання прынімае.
Яно ўзнімае да нябёс
Узнёслых думак трапятанне,
Жыцця твайго шчаслівы лёс
У гэта сонечнае ранне.
Яно – парыў, яно – ўсё ўзлёт,
Яно – запал і палымненне,
Яно – нязведаны палёт
Ў краіну мар і там гарэнне.
І доўга ў сэрцы будзе жыць
І час сустрэч, і час спатканняў,
І не забыць нам, не забыць
Нямую горыч расставанняў...



*С. В.*

О, незабыўныя гады,
Маленні сэрца і гаданні!..
Цвілі вішнёвыя сады,
Збываліся твае жаданні.

Свяці святлом тае вясны,
Што з намі разам сябравала
І неразгаданыя сны
Тады, як дзецям, навявала.

Красуйся, радуйся, гары,
Агнём той ранішняй зары,
Што нас звяла і азарыла
І назаўсёды блаславіла.



Я гадаю, ўсё гадаю,
Што такое мне зрабіць,
І ніяк не адгадаю,
Што табе мне падарыць.
Можа неба над табою,
Можа гэты Млечны Шлях,
Можа раніцу з зарою,
Можа ўвесь зямны прасцяг,
Можа ўсёй вясны цвіценне,
Святло вясенняе бяроз,
Маё зямлі багаслаўленне,
Яе любві шчаслівы лёс?



Што мне сказалі твае вочы,
Толькі сэрца можа зразумець.
Ў іх позірку і сум дзявочы,
І агонь, што прагне палымнець.
Яны ўмясцілі боль разлукі
І светлай радасці засеў;
Парыў любві і слёзы мукі
Па рана страчанай красе.

* * *

Цябе чакаў, як спадзяванне,
Як сонца рана на світанні,
Як зоркі зіхатлівай ззянне,
Як майскіх кветак красаванне,
Як самае жаданае жаданне
У час апошняга спаткання.
Калі ж закончыцца чаканне –
Душы маёй выпрабаванне?

* * *

Вечар. Холад.
Іду да цябе,
адзінокі, самотны,
і пытаю ў гэтых маўклівых,
такіх жа самотных бяроз:
"Чаго засмуціліся, што вам баліць?"
І сам адчуваю іх боль,
іх згоду падзяліць са мной
маё гора...
І здаецца мне,
што лісцем сваім
яны хіляцца да мяне
і хочуць, каб я адкрыў ім
маю тайну.
І нібы пытаюць,
звяртаючыся да той,
што засмуціла мяне,
што распяла на крыжы
свайго сэрца
маю думку-мару:
"Ці адчуваеш ты чужы боль?"

* * *

Цябе я клічу кожны раз у сне.
Ідзеш ты да мяне. Я гэта бачу
І радуюся светлай той вясне,
І сам ад радасці з табою плачу.

А можа гэты сон – зусім не сон?
А можа гэта – толькі летуценне?
А можа і не мне прысніўся ён?
А можа ў гэтым сне – маё мучэнне?



Ты помніш развітальнае "Бывай!",
І дзіўны ўсплеск святога пачуцця...
Прайшлі мы пекла, ачышчэнне, рай
На золкай быстрыні свайго жыцця.

І каб вярнуцца ў край юнацкіх сноў
На ўзлёце год і нашага ўзмужнення,
Гатовы мы спазнаць і зноў, і зноў
Пякельны жар і слодыч ачышчэння.

# ЗМЕСТ

## II

## III

Літаратурна-мастацкае выданне

ВАСІЛЬ ІВАШЫН

# СЛОВА

Вершы

Адказны за выпуск *Г.Л. Халяўскі*

Рэдактар *С.М. Рыбарава*
Тэхнічны рэдактар *М. Н. Кісякова*
Макет і вёрстка *Р.М. Петрашэнь*

Падпісана да друку 23.12.94. Фармат 70 x 90/32.
Папера афсетная. Гарнітура SchoolBook. Друк афсетны.
Ўмоўн. друк. арк. 5,85. Ул.-выд. арк. 4,95.
Тыраж 2000 экз. Зак 1363.

Вытворчае прадпрыемства «Мет». Ліцензія ЛВ № 210.
220005, Мінск, вул. Чырвоная, 13.

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў тыпаграфіі выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.